16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

2• 2019
люты

Падумаеш, стары! Ён мяне сваёй душэўнай прыгажосцю купіў!

ЗАГС

Алег КАРПОВІЧ.


**«Акуратна: цюбінг!»**
*Маналог адной бярозы*
**Падслухала Алена КЕДА.** 7

**Аляксандр ЗОТАЎ**
**«Пра барацьбу, аліўкі, Японію і многае іншае»**
*(ІІ Еўрапейскія гульні)* 12-13

**ЗАЙМАЛЬНЫЯ МІФЫ**
**Генадзь АЎЛАСЕНКА**
**«Хто і чаму Перуна баяўся»** 23

# Сцэны медыцыны





















Алег ПАПОЎ х 7.




## Крымінальны квінтэт

*Ушацкі раён.* У знакамітай байцы Крылова «Квартэт» героі так і не здолелі сыграць што-небудзь вартае. А вось мясцовы крымінальны квінтэт у складзе першага намесніка старшыні райвыканкама і чатырох супрацоўнікаў фермы разыграў усё як па нотах.

Кіраўнік загадаў украсці з фермы бычка. Супрацоўнікі жвава ўзяліся за справу: выбіралі скаціну, усыплялі, везлі ў прыватную сялянскую гаспадарку... Дзяржпрадпрыемства пазбавілася жывёлы коштам больш за тысячу рублёў, а кіраўнік неўзабаве — пасады. Быў узяты пад варту.

Таксама высветлілася, што крымінальны квінтэт, відаць, не адзіныя «музыканты» на ферме: супрацоўнікі фінансавай міліцыі не далічыліся яшчэ 70 жывёл. Вядзецца следства.



## Шаўцы без ботаў

*Мінск.* У жніўні 2017 года двое мінчан зарэгістравалі на падстаўную асобу камерцыйную махлярскую структуру, якая «дапамагала» прадпрыемствам не плаціць падаткі. Тавары куплялі і рэалізоўвалі за наяўны разлік без неабходных дакументаў. У выніку такіх афёр бюджэт не далічыўся амаль 80 тысяч рублёў.

Аднак прадпрымальныя мінчане, дапамагаючы іншым абыходзіць закон, не здолелі дапамагчы сабе самі. У адносінах да іх узбуджаны крымінальныя справы.

## Тайнае і відавочнае

*Бабруйск.* Нездарма кажуць, што ўсё тайнае робіцца відавочным. Адзін бабруйчанін прыхаваў пад сядзеннямі аўтамабіля трыццаць пластыкавых каністраў з этылавым спіртам расійскай вытворчасці. Але раней за пакупнікоў бабруйчаніна знайшлі міліцыянеры і канфіскавалі змесціва схованкі коштам 1,2 тысячы рублёў.

Цяпер відавочна: «бізнесмену» пагражае штраф да ста базавых велічынь і канфіскацыя прадукцыі.



## Па рэцэпт

*Віцебск.* — Анабалічныя стэроіды я не магу выпісаць, — урач збіраўся клікаць наступнага пацыента.

— Чаму? — Мікалай так спадзяваўся атрымаць рэцэпт на цудадзейныя лекі, пра якія чытаў у інтэрнэце, што ледзь не заплакаў.

— Не бачу падстаў. Ды і прымаць іх — шкодзіць здароўю.

Аднак Мікалай не пагадзіўся з доктарам і паімчаў да знаёмага гандляра з крамы спартыўнага харчавання.

— Анаболікі ў мяне, вядома, ёсць, — ціха прызнаўся той, бо не меў права прадаваць іх. — Спішамся праз электронную пошту.

Як высветлілася, такіх Мікалаяў у яго было шмат: летась і пазалетась віцябчанін нагандляваў на 7,5 тысячы рублёў. І збіраўся так дзейнічаць і далей: у яго кватэры і аўтамабілі адказныя асобы знайшлі буйную партыю анаболікаў — 25 назваў на суму 18 тысяч рублёў.

Гандаль спыніўся. А Мікалай зноў пайшоў да ўрача па рэцэпт. Забалела печань...

## Хоць скрозь зямлю правалíся

*Ушацкі раён.* Дзіва, ды толькі! Больш чым 146 тысяч рублёў з бюджэтных сродкаў, выдаткаваных у межах дзяржаўнай праграмы «Чыстая вада», як скрозь зямлю праваліліся. А разам з імі — і старыя артэзіянскія свідравіны, якія патрабавалі капітальнага рамонту.

Знайшлі іх фінансавыя міліцыянеры. Схавалі – тры дырэктары: мясцовага прадпрыемства ЖКГ, упраўлення капітальнага будаўніцтва і будаўнічай арганізацыі. Замест рамонту старых свідравін па іх загадах бурыліся новыя, а старыя — засыпаліся зямлёй.

Хацелі атрымаць прэміі за асваенне бюджэтных сродкаў, а адхапілі крымінальныя справы. Хоць скрозь зямлю праваліся ад сораму!



*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.*

*Шаноўныя чытачы!*

Рэдакцыя часопіса «Вожык» знаходзіцца цяпер па новым адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Захарава, д. 19.
Тэлефон: 244-92-37.
Пішыце, тэлефануйце, заходзьце!
Чакаем новых твораў!

*Свой астатні грошык*
*Не шкадуй на «Вожык»,*
*Бо настрой харошы*
*Даражэй за грошы!*



**Яўген ХВАЛЕЙ**




## Пераблытаў

Не ўдаўся са спартсменкай флірт:
Паблытаў словы «спорт» і «спірт».



## Хто герой?

— Паглядзі, які я бурны!
Ты такою век не будзеш, —
Вадаспад Раку ўшчувае.
Адказала ціха тая:
— Плынь мая твой шум збівае:
Ты — сваволіш, я — трываю...



Анастасія СКАРКО і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## Думкі ўголас

Калі грызе сумленне, дык прападае апетыт.

Шлях да здароўя праходзіць не толькі праз аптэку.

Калі вывучаеш гісторыю, дык зазіраеш у будучыню.

Можна і не спяшацца, але каб толькі не спазняцца.

Лягчэй знайсці сабе апраўданне, калі згубіў сумленне.

Цукар салодкі да дыябету.

П’яны ад шчасця не трапляе ў медвыцвярэзнік.

Са здароўем жарты дрэнныя, а без яго — наогул не да жартаў.

Трэба ведаць сабе цану. Але не забываць пра інфляцыю.

Дзе тытунёвы дым, там не пахне здароўем.

Будзеш жартаваць са сваім здароўем — заплачаш неўзабаве ад хвароб.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




*Прывітанне, братка Вожык!*

Усялякія дзівосы здараюцца ў жыцці. Як кажуць, бывае, што і ў дзеўкі муж паміраe, а ва ўдавы — жывы.

А вось паблізу сталіцы, у пасёлку Лясны Мінскага раёна, няма... вуліц. Не, не падумай, і дарогі ёсць, і дамы (нават з нумарамі), а назваў вуліц — няма! Не знайшлося годных, паважаных асоб, відаць, хоць у тым жа Мінску (некалі ў газеце чытаў) у спісе на прысваенне назваў праспектам, вуліцам ды плошчам было летась ажно 63 прозвішчы.

Застаецца спадзявацца, што гэтае пытанне з цягам часу вырашыцца, бо кожная вуліца павінна мець сваё «імя», а адсылаць пісьмы ў наш час з пазнакаю «На деревню дедушке» неяк сорамна. Усё ж хочацца, каб і на гэтых вуліцах было свята...




**Іван ЖУКАЎ,**
*Мінскі раён,*
*в. Бараўляны.*

*Добры дзень, калючы сябра!*

Хачу расказаць табе, як працуюць прадаўцы ў розных сталічных універмагах. Купіла я ў студзені ва ўнівермагу «Беларусь» дачушцы сандалікі. Думаю, прымерым дома і, калі не падыдуць, вярну. На жаль, не падышлі. Праз некалькі дзён паехала ва ўнівергмаг, падышла да касы, павіталася з дзвюма прадаўшчыцамі, працягнула чэк, каробку з абуткам... А мне ў адказ:

— Ідзіце да нашай загадчыцы, вяртайце абутак, няхай яна подпіс свой паставіць!

— І дзе мне яе знайсці? — ажно разгубілася я.

— Ідзіце праз залу, спачатку прама, потым направа, у кабінет!

Паблудзіла я крыху па зале, сярод паліц з абуткам, ды знайшла той кабінет — вузенькі пакойчык, падсобку.

Была там і загадчыца, відаць, бо подпіс свой паставіла, і яе супрацоўніцы, што вырашалі нейкія вытворчыя пытанні. Пастаяла я ў парозе, дачакалася запаветнага подпісу ды зноў пайшла на касу, вяртаць грошы...

А неўзабаве патрапіла ў ЦУМ, па тым жа пытанні, як кажуць. І зноў дачушцы басаножкі не падышлі. Назаўтра паехала ва ўнівермаг, падышла да касы: маўляў, хачу вярнуць абутак...

А мне ў адказ:

— Вось вашы грошы. Забірайце, калі ласка!

І грошы аддалі, і абутак забралі, і нікуды не сказалі ісці...

Вось цяпер думаю, чаму ў сталічных універмагах такое рознае абслугоўванне і адносіны да пакупніка? Ды радуюся, што ў «Беларусі» не прапанавалі яшчэ і швабру ў рукі ўзяць ды прыбраць за сабой: наслядзіла ж! Усё роўна па зале тэпаць трэба туды-сюды. Ды не, абышлося... Сервіс!..



**Паліна ХОМІЧ,**
*г. Мінск.*

*Дружа Вожык!*

Хоць 1 Красавіка яшчэ наперадзе, а ў магазіне «Щедрый», што знаходзіцца на Плошчы Перамогі, ужо на ўсю моц жартуюць. Каля касы прымацавана таблічка: «Уважаемые покупатели! Просьба, выкладывать товары на ленту».

«Усё лагічна!» — запярэчаць мне. Так, вядома, але стужкі гэтай каля касы няма і, відаць, ніколі не было. Месца ж, куды трэба выкладваць тавар (як, дарэчы, і забіраць), зусім невялікае, як кату паваліцца. Нават аднаму пакупніку, што прыдбаў нямала тавараў, разгарнуцца няма дзе, увесь скарб за адзін раз у пакет не пакладзеш. А зала ў магазіне, між тым, не маленькая...

Смех, дый годзе! Але, павер мне, зусім не смешна пакупнікам, што вымушаны абслугоўвацца ў такіх нязручных умовах.



**Алесь КОТ,**
*г. Мінск.*

Віншуем!

*З 75-годдзем Васіля Іванавіча НАЙДЗІНА, беларускага пісьменніка, сатырыка і гумарыста.*

*Ураджэнец вёскі Бярозаўка Бялыніцкага раёна сваё першае гумарыстычнае апавяданне надрукаваў падчас службы ў Ваенна-Марскім Флоце. З той пары, дзе б Васіль Іванавіч ні працаваў – у раённай газеце, намеснікам рэдактара «Мінскай праўды», загадчыкам рэдакцыйна-выдавецкага аддзела Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь – заўжды знаходзіў час і жаданне для літаратурнай усмешкі. Доўга гумар і ўвогуле займаў асноўнае месца ў яго дзейнасці: скончыўшы ў 1977 годзе Мінскую Вышэйшую партыйную школу, Васіль Найдзін шчыраваў на пасадзе рэдактара аддзела фельетонаў у часопісе «Вожык».*

*Пісьменнік умее бачыць камічнае ў самых ардынарных з'явах і ўчынках. Друкаваўся на старонках «Вожыка», іншых рэспубліканскіх выданняў. Выйшлі зборнікі гумару «Мужчынскія сакрэты» (1981), «Аддаю вам...» (1984), «Сустрэнемся ў Барселоне» (1991), «Кветка кактуса» (1992). Гумарэскі і апавяданні змяшчаліся ў калектыўных зборніках «Сакрэт фірмы» (1979), «Кубік Рубіка» (1987), «Ад гарэлкі розум мелкі» і «Размова па шчырасці» (абодва 1990).*

*Ад усёй душы жадаем юбіляру моцнага здароўя і плённых творчых здабыткаў!*



*Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*

**Васіль НАЙДЗІН**

## Дайце параду!

*(Ліст у рэдакцыю)*

Паважаныя таварышы літаратары, а таксама работнікі чорнай і, магчыма, каляровай металургіі!

Улічваючы важнасць пытання, хачу з вамі параіцца.

Здарылася так, што нядаўна я напісаў верш «Металалом і гром», які аказаўся байкай. Пра гэта я даведаўся, калі мой першы літаратурны твор выйшаў у свет, сціпла кажучы – быў надрукаваны ў нашай шматтыражнай заводскай газеце «Наковальня».

Адразу пасля гэтага майстар нашага цэха Шышкін, якога я прыціснуў словам і рыфмай за безгаспадарчасць, неэфектыўнае выкарыстанне каштоўнага металу ўвогуле і металалому ў прыватнасці, зрабіў намёк наконт маіх будучых прэмій і іншых заахвочванняў. Я пачаў хвалявацца. Але Міша, мой сябра, сказаў: «Плюнь, Коля, на пагрозы... Яшчэ тры такія байкі, і ў нас будзе другі майстар цэха. Байка мяне ўразіла, калі я чытаў яе перад сном. У будучым толькі трэба больш рабіць у творах такога накірунку лірычных загібаў і паваротаў».

Не супраць, відаць, каб я пісаў байкі, і галоўны інжынер завода Хобатаў – яму я таксама ўдзяліў там увагу. На сходзе Хобатаў заявіў: «Гэта вельмі добра, таварышы, што пра хлеб чорнай металургіі клапоціцца слесар Бурачкоў. Але яму, відаць, у літаратурнай дзейнасці замінае яго непасрэдная работа? Гэтай бядзе мы можам дапамагчы...»

Падбадзёрыў і рэдактар шматтыражнай газеты. Вось яго словы: «Пішы далей, Бурачкоў. І ты можаш апынуцца ў штаце нашай рэдакцыі, альбо дзе-небудзь у іншым месцы...»

Словы свае ён падмацаваў справай: даў мне заданне напісаць байку «Дапамога металургам не робіцца штурмам» ці што-небудзь іншае пра эканомію каляровых металаў.

Перш чым брацца за пяро другі раз у жыцці, я звяртаюся да вас з пытаннем: ці былі раней выпадкі, каб паэзія садзейнічала развіццю чорнай і каляровай металургіі?

Мікола БУРАЧКОЎ.

*«Анюціны вочкі», Мн., 2017 г.*



*Сваё 80-годдзе сёлета адзначыў пісьменнік, журналіст, гумарыст Пётр Іванавіч РАДЗЕЧКА. Беларускай прэсе творца аддаў 35 гадоў жыцця – працаваў у «Гомельскай праўдзе», «Советской Белоруссии», часопісе «Нефтяник Полесья». Літаратурную работу таксама не кідаў, а пасля выхаду на пенсію ў 2000-м годзе займеў больш часу, каб займацца любімай справай. Вялікім поспехам і папулярнасцю карыстаюцца яго кнігі, прысвечаныя жыццю і творчасці Сяргея Ясеніна. Іх мастацкая і навуковая вартасць была адзначана ўзнагародамі як рэспубліканскага, так і міжнароднага ўзроўню.*

*Не менш плённыя набыткі ў Пятра Іванавіча і на гумарыстычнай ніве. Літаратурныя пародыі і эпіграмы аўтара даўно прыйшліся даспадобы аматарам гэтых жанраў, у тым ліку і чытачам «Вожыка». Новыя творы сабраны ў кнізе «Эх, мне б – Дункан» (2016) з серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае». І сведчаць яны пра тое, што пісьменнік знаходзіцца ў выдатнай гумарыстычнай форме! Жадаем захоўваць яе яшчэ многія гады, часцей усміхацца самаму і даваць нагоду для ўсмешкі нам.*



*Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*

**Пётр РАДЗЕЧКА**

## То не верш, а крутая паэма!

*Штосьці таемнае шэпча прыбой,*
*Льецца ўночы цыкад серэнада.*
*У раі я спаткаўся з табой,*
*Павянчаны спакусай прынаднай...*

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ



У раі я спаткаўся з табой
І назваўся Адамам (так сціпла!),
А ты ў сад павяла за сабой
І ні кроку назад... Як прыліпла!

Я міжволі ішоў, нібы ў сне,
Да занадта прыгожага дрэва...
Там ты яблык зняла
І дала яго мне –
Елі разам з табою мы, Ева!

Бог прыкмеціў спакусу і грэх,
Адлучыў беззваротна ад раю...
Ды не трэба мне райскіх уцех!
Ад зямной асалоды згараю!

Не заменіць мне радасць жыцця
Бесклапотная існасць эдэма.
Мы ў каханні да паўзабыцця...
То не верш, а крутая паэма!

## Каханне і склероз

*Сягоння зноўку не да сну.*
*Пайду пад поўню,*
*Усю душу перавярну,*
*Каб нешта ўспомніць.*

Алег САЛТУК

Усю душу перавярну,
Каб нешта ўспомніць,
Бо сёння зноў мне не да сну –
Стаю пад поўняй.

З нябёс глядзіць, нібы сава,
Яна мне ў вочы...
Пайшла аж кругам галава
Пасля паўночы.

Стаю, а ўспомніць не магу,
Трасуцца жылы...
Ўзгадаў нарэшце: я ж іду
Да сваёй мілай!

## Я ўжо не хаджу... лунаю

*Я ціха плыву над полем,*
*Над лесам, дзе спее ноч...*
*Я веру, што я бясконцы...*

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

Як светлае ў небе сонца,
Як любая намі зямля,
Я веру, што я бясконцы,
Як вечная творчасць мая.

Я ўжо не хаджу... лунаю
Над лесам, над полем, ракой.
І што ні спытаеце – знаю,
Бо я ж на пасадзе такой!

Над Мінскам лячу, над пляжам...
Над Віцебскам лётаць не стаў –
Пабачаць жа людзі і скажуць:
«Навум наш – ну, быццам Шагал...»






## Лірычная ўсмешка паэта



*Сёлета спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння народнага паэта БССР Аркадзя КУЛЯШОВА (1914–1978). Многія яго вершы, балады і паэмы, асабліва знакаміты «Сцяг брыгады», вядомыя нам яшчэ са школьнай парты. Творчасць Аркадзя Аляксандравіча можна ахарактарызаваць так: рэфлексійная, філасофская, ідэйна заглыбленая. Выхаваны ў сям'і настаўнікаў, якія мелі выдатныя вакальныя здольнасці, будучы народны паэт рана адчуў у сабе жаданне асэнсоўваць навакольны свет па-мастацку. Гэтая прага, памножаная на бясспрэчны літаратурны талент, і стала асновай паэтычнай творчасці класіка.*

*Нягледзячы на выключную сур'ёзнасць тэм і праблем, што закраналіся аўтарам, Аркадзь Куляшоў умеў у сваіх творах усміхацца – часам добразычліва, а часам і іранічна. Так, у пачатку Вялікай Айчыннай вайны ён працаваў у армейскай газеце «Знамя Советов». Яго вершы і гумарыстычная байка пра байца Аляксея Пятрова, напісаныя на рускай мове разам з І. Чэкіным, карысталіся вялікай папулярнасцю.*

*Аднак найбольш уласціва творчасці класіка лірычная ўсмешка – тая, што міжволі з'яўляецца на вуснах пасля прачытання вобразнага, шчырага, арыгінальнага верша.*

**Аркадзь КУЛЯШОЎ**

### На сотай вярсце

Ля поплава лазню
Таплю ад паўдня;
Ля поплава злазіць
Дзяўчынка з каня.

На вольхах даўгі
Калыхаецца цень.
Прысела. Шляхі
Затамілі за дзень.

Сто вёрст адскакала
Пякельных, як вар,
Сто вёрст загарала –
Нябёсы без хмар.

– Дазволіш, – смяецца, –
Папарыцца мне?..
Ты ж баншчык, здаецца?
Адказваю:
– Не.

Я так – летуценнік,
У бацькі ў гасцях,
Бярозавы венік
Трымаю ў руках.
Пяю табе славу,
Духмяны лісток,
Ты жаркую паву
Прывабіў здалёк.

Яна маладая
І я – малады.
Размова такая:
– Адкуль вы?
Куды?..

Кароткая стрэча
На сотай вярсце.
З маланкай пад вечар
Хмарынка расце,

Спяшае наехаць,
Нахлынуць на нас;
Развітвацца – нехаць, –
А трэба, а час.

З трывогай на хмарку
Глядзім, а маглі б
Ісці з ёй да парку –
Да школьных да ліп.

Конь пасвіўся б сыта
У лузе, а мы б
Пад самае жыта
Пабегчы маглі б.
Пасеўшы ў зацішша,
Вязалі пражмо б,
А сонца ўсё ніжай
І ніжай ішло б.

У хвалі прымала б
Яго збажына...
Куды ж паскакала
Так рана адна?

Касынкай-зарой
З жытніх блiснула хваль.
Як сэрца за ёй
Парываецца ўдаль!

Эх, коні-стаеннікі,
Пыл за сялом...
Духмяныя венікі,
Чэрвеньскі гром!

*«Паміж наступным і былым»,*
*Мн., 1995 г.*





# Акуратна: цюбінг!



*Маналог адной бярозы*

«І што гэта робіцца на свеце? Я расту тут, каля дарогі, ужо больш за трыццаць гадоў і ніколі такога не бачыла! Як было раней? Каталіся дзеткі на саначках з гары — ніякай бяды. Ну, перакуліцца які чалавечак ці на бачок ляжа, дык хуценька ўстане, снег абтрасе — і зноў на горку! І як ні разганяліся малыя, да мяне і маіх суседак, дзвюх туй, ніколі не даязджалі. А цяпер як? З'явіліся цюбінгі — і страх бярэ. Гэты ж «круг» ляціць, як шалёны, і спыняцца не думае! А я з сяброўкамі, каб і хацела, не ўцяку нікуды! Стаю ды дрыжу. Баюся, ці перажыву ўвогуле гэтую зіму...

Гэта ж некалькі разоў на тыдзень прыязджае хуткая дапамога па выкліках. Ой, як шкада мне маленькіх дзетак! У чым яны вінаватыя? Што вераць дарослым, якія спакойна прыводзяць іх на гэты пагорак ды пакідаюць катацца? Што не тлумачаць, што коўзацца тут небяспечна?

Ды часам і самі дарослыя пхнуцца з цюбінгам на ўзвышша. Вось, якраз учора медыкі забралі хлопца, які не размінуўся з суседняй туяй, і зламаў яе. Мабыць і сабе таксама нешта пашкодзіў, бо вельмі ж галасіў, убачыўшы хуткую дапамогу.

І навошта людзі лезуць на гару? Чаму нікога не палохаюць яе вышыня, дарога і дрэвы побач? Горка ж не адзіная ў вялікім горадзе! Ёсць дзе бяспечна пакатацца, ды не...

Кожны раз, калі бачу дзіця на цюбінгу, што набірае хуткасць, заміраю. Сутыкнецца ён са мною альбо яму ўсё ж пашанцуе? Зноў пабачу медыкаў ці малы з'едзе ўдала? Часам падаецца, што хвалююся за дзяцей больш, чым іх бацькі.

Ведаеце, якое слова я чую часцей за ўсё?

«Акуратна!» Так кажа бабуля ўнуку, які нясецца на цюбінгу, падобны на зорку. Ён з'язджае на жываце, раскінуўшы рукі і ногі. Цюбінг разганяецца, набірае хуткасць — і хлопчык вылятае з яго. Добра, што ў снег...

«Акуратна!» І маці з дзіцем коцяцца разам з горкі на цюбінгу. І зноў я заміраю: яны ж зараз выскачаць на дарогу!

«Акуратна!» Папярэджваюць бацькі сяброў-школьнікаў. Дзеці едуць з горкі разам, трымаючыся за цюбінгі адзін аднаго. О, як я радуюся, калі яны спыняюцца ўсяго ў некалькіх кроках ад мяне і дарогі...

Нядаўна на горцы з'явілася таблічка «Катацца забаронена!» Але што гэта? Зноў бачу медыкаў, зноў замірае маё сэрца, бо вялікія чырвоныя літары нікога не палохаюць і не спыняюць. Адныя нават не заўважаюць таблічку. Другія — чытаюць тэкст, але «акуратна» садзяць дзяцей на цюбінгі. Трэція — караскаюцца на гару самі...

Мінула некалькі тыдняў, а змен — ніякіх. Хаця няпраўда, здарылася бяда: за гэты час зламалі маіх сяброўак. Туй больш няма. Я пакуль трымаюся.

Пасля гэтага здарэння каля пагорку з'явіліся дружыннікі. Яны літаральна адганялі людзей ад яго. Тлумачылі, што тут небяспечна. Час ад часу чула перапалку паміж імі і дарослымі, што прыводзяць сюды дзяцей. Няхай... Лепш лаянка, чым штодзённае хваляванне за іхнія жыцці.

Варта ўвечары дружыннікам сысці і — пачынаецца! Дакладней, працягваецца. Цюбінгі носяцца з гары як шалёныя. Ой, баліць маё сэрца!..

Ды няўжо мае страхі хутка сыдуць у нябыт? Неяк раніцой горку густа пасыпалі пяском. Сапсавалі, словам! Я ніколі ў жыцці не радавалася чужому гору. Але ж як прыемна глядзець на гаротныя твары аматараў экстрыму! Яны пазіралі на «сапсаваную» гару, на таблічку з вялікімі чырвонымі літарамі, пасля недаверліва касілі вачамі ўніз і сумна сунуліся прэч.

А якую прыемную навіну я сёння пачула! Дворнікі казалі, што вясной на горцы, відаць, пасадзяць кусты. Шмат кустоў. О, якая гэта будзе прыгажосць! І спакой, і цішыня! Ды што яшчэ рабіць, калі часам людзей трэба абараняць ад саміх сябе?»

**Маналог падслухала Алена КЕДА.**





Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# ЯКІ ЧАС — ТАКІЯ НОРАВЫ

## Скарга модніцы

— Зашыла маці ў джынсах дзіркі.
Ну, хіба можна так, скажы?!
А бацька ўзяў кашулю ў латках,
Машыну мые ў гаражы...

## Кожнаму сваё

Купляюць срэбра, паперы,
Нейкія там аблігацыі...
А я шчаслівы без меры:
Набыў пельмені па акцыі!



## Псіхалагічны ўзрост

Андрэю ўжо было пад сорак,
Ды не ішоў кар'ерны рост.
Наважыўся тады праверыць
Псіхалагічны свой узрост.



Паводле тэсту з інтэрнэту
Няма чаго перажываць:
Якая можа быць кар'ера,
Калі табе няпоўных пяць?

## Імідж не для ўсіх

Насіў ён з дрэдаў пук на галаве.
Дзівілася суседка, цётка Ніна.
Мянушка прыляпілася няўзнак
Да моднага падлетка — Чыпаліна.

**Вольга ЛІХАДЗІЕЎСКАЯ.**

## Філалагічныя замалёўкі

Стомленыя твары ва ўсіх былі апушчаны долу ў пахмурным маўчанні.

Рыданні калацілі яе смуглыя плечы.

«Плывіце з мірам...» — сказаў Кірыл Алене, якая ўжо скінула сарафан і басаножкі.

Міхась дагэтуль не кахаў нікога. Ён нават не ведаў, як гэта робіцца...

«Я чую ў табе агеньчык. Не патапі яго ў мутнай вадзе», — як сапраўдны філосаф, сказаў Андрэй.

Ён — жудасна паспяховы чалавек.

Яго схапілі адчай і смутак.

«Я распалю ў табе шчасця печ», — паабяцаў Алег Ірыне.

Толькі ўдосталь табою напіцца
Ніколі я ўжо не змагу...

Акунуўшыся ў мора з галавой, дзяўчына хутка паплыла праз хвалі.

«Так, я дзяўчына, якіх шмат было і шмат яшчэ будзе. Але, нягледзячы на гэтую шматдзяўчыннасць, я — унікальная!» — з гонарам сказала Марына.

**Уважліва чытаў перыёдыку**
**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ.**



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.



# Малюе Міхаіл Знайдзюк



Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

*Знаёмцеся, паважаныя чытачы – Міхаіл ЗНАЙДЗЮК! Самабытны мастак-карыкатурыст, вясёлы і добры чалавек. Большую частку жыцця пражыў у Расіі, маляваў мультыплікацыйныя фільмы на радасць людзям.*

*Затым вырашыў вярнуцца на радзіму бацькоў. Але тут, на Беларусі, адклаў у бок аловак і крута павярнуў «баранку» звыклага жыцця: стаў вадзіцелем-дальнабойшчыкам. Праўда, жаданне дарыць людзям усмешкі засталося, і ў вольны ад напружанай працы час Міхаіл малюе карыкатуры для чытачоў часопіса «Вожык».*

*Доўгай і вясёлай дарогі табе, дружа, разам з нашым часопісам!*

*Мастак-карыкатурыст Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.*














# СТО КІЛАМЕТРАЎ БАЛБАТНІ

Сабралася ў сталіцу ехаць.
Маршрутка. Месца ля дзвярэй.
Паездка для мяне – пацеха,
Як пачастунак для дзяцей.

Люблю сядзець, глядзець у вокны,
Пра штосьці думаць, разважаць.
Ад краявідаў, што навокал,
Дальбог, вачэй не адарваць!

Ды толькі ззаду балбатуха
Ніяк спакою не дае.
Гамоніць так, што рэжа вуха,
І тэлефон яе пяе.

«Перагаворны пункт» гадзіну
Беспераcтанку працаваў.
Паслухалі мы пра Марыну,
Пра безліч самых розных спраў...

Спявала б доўга «канарэйка»,
Псавала б нам усім настрой,
Ды добра – села батарэйка.
Нарэшце надышоў спакой.

Хоць гаджэты ў руках трымаем,
А пра культуру забываем.
Калі не ўласная маршрутка –
Будзь ветлівым, сядзі ціхутка.

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*

# ПРА ДЗІРКУ І ПРЫДЗІРКУ

Раскажу табе я, дружа,
Як кахала жонка мужа.
Першы час была лагоднай,
Самай лепшай, самай роднай...
Некалькі гадоў прайшло –
Штосьці трэснула, бы шкло.
Неяк ранкам вераснёвым
Муж пайшоў у лес па дровы.
Так старанна працаваў –
Куртку добрую парваў.
Што рабіць? Далей шчыруе –
Жонка дома зацыруе...
Гаварыць, сябры, няёмка,
Як сустрэла мужа жонка.
Гэтакай не чуў ні разу
Пра сябе бядак абразы.
Паўстае адно пытанне:
Хіба можа быць каханне,
Калі жонка толькі й марыць,
Каб уволю паўладарыць?

Хоць мужоў кахаюць часам,
Ды трымаюць пад абцасам.
І здзіўляюцца заўсёды:
Адкуль спрэчкі і разводы?

**Іван АСТРОЎСКІ,**
*г. Мінск.*






Белы наліў – шклянка гарэлкі.

Бульдог – сабака-выратавальнік на вадзе.

Бухулік – статыстыка зімовага траўматызму.

Грамата – навальніца.

Дантыст – літаратуразнаўца, спецыяліст па творчасці Дантэ Аліг'еры.

Залаты наліў – шклянка пладова-ягаднага віна.

Таксіст – гаспадар таксы.

Царква – манарх усіх жаб.

Целаахоўнік – вартаўнік морга.

Цепланосьбіт – чалавек, які нясе дровы.

Шыпшына – аўтамабільная гума з шыпамі.

**Заўважыў**
**Сяргей ЛАПЦЁНАК.**



## Незваротная даверлівасць

*Гродна.* – Мама, я трапіў у аварыю!

– Хто гэта? – захвалявалася жанчына, не пазнаўшы голас суразмоўцы.

– Я, твой сын. Але больш гаварыць не магу. Зараз з табой будзе размаўляць іншы чалавек, – і субяседнік перадаў некаму трубку. Пачулася: – Ваш сын збіў дзіця, грамадзяніна Літвы. Але праблему можна вырашыць. Патрабуецца шэсць тысяч долараў.

– Але ў мяне ёсць толькі пяцьсот! – разгубілася пенсіянерка.

– Нічога, разбяромся, – супакоіў яе незнаёмец. – Запісвайце рахунак, куды трэба пералічыць грошы. І, вядома, нікому ні слова!

Жанчына ўсё ж патэлефанавала сыну. А калі той не адказаў, пабегла ў банк.

Потым сын патлумачыў, што не мог гаварыць па тэлефоне, бо працаваў. Ніякага ДТЗ, вядома, не было. Але аферысты ўжо знялі з рахунку ў Літве пералічаныя долары. Даверлівасць аказалася дарагой і незваротнай.



## Займальная геаграфія

*Мінск.* Колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе. У 2013 годзе грамадзянка Малдовы разам з хаўруснікамі незаконна капіравалі ў Беларусі банкаўскія карткі і ПІН-коды да іх, а затым кралі грошы з рахункаў грамадзян.

Беларускія міліцыянеры шукалі жанчыну па лініі Інтэрполу з 2015 года. І вось нарэшце румынскія праваахоўнікі затрымалі махлярку, калі яна спрабавала перасекчы румынска-малдаўскую мяжу.




Вырашаецца пытанне аб яе выдачы. Вось так вяровачка з Малдовы праз Румынію прывяла ў Беларусь...

## Не дачакаліся

*Мінск.* Кажуць, што абяцанага тры гады чакаюць. Здараецца, што можна і наогул нічога не дачакацца.

У 2015–2016 гадах адзін аршанец пазычыў у трох знаёмых усяго 54 тысячы долараў для камерцыйных спраў. Кожнага з іх ён запэўніў, што неўзабаве верне грошы. Паказваў фотаздымкі: адным – дарагіх аўто, якія нібыта прывязе з Расіі для перапродажу, другім – польскай мэблі...

Калі знаёмым надакучыла чакаць, яны звярнуліся ў міліцыю. Аднак было позна: усе пазычаныя грошы «бізнесмен» прагуляў у казіно.



## Вандроўнікі ў часе

*Лагойскі раён.* Два крымінальныя аўтарытэты, раней неаднаразова судзімыя і беспрацоўныя, навучыліся вандраваць у часе. Відаць, пасля адной з такіх вандровак яны забыліся, што жывуць не ў 90-я гады мінулага веку, і пачалі займацца вымагальніцтвам. У мясцовых жыхароў з крымінальным мінулым мужчыны «выбівалі» грошы – ад 120 да 500 рублёў. Вымагальнікі патрабавалі ў ахвяр вярнуць даўгі, часцей за ўсё неіснуючыя. Здабываць грошы «вандроўнікам у часе» дапамагалі нож, малаток і сякера.

Цалкам верагодна, што наступным месцам вандроўкі для іх можа зноў стаць турма. Узбуджана крымінальная справа...

## Дурманныя мары

*Барысаўскі раён.* Малады жыхар Чэрвеня, студэнт гродзенскай ВНУ, ведаў, што дрэнны той салдат, які не марыць стаць генералам. Аднак станавіцца законапаслухмяным «генералам» яму было не цікава. Напачатку хлопец праз сацыяльныя сеткі знайшоў вакансію і працаваў у інтэрнэт-краме наркотыкаў закладчыкам, а потым, як кажуць, павысіў кваліфікацыю і арганізаваў на здымнай гродзенскай кватэры наркалабараторыю.

Крымінальная кар'ера хутка скончылася: супрацоўнікі міліцыі затрымалі студэнта разам з беспрацоўнай жыхаркай Касцюковіч паблізу вёскі Ланкаўшчына. У аўтамабілі міліцыянеры знайшлі лабараторнае абсталяванне і рэчывы, неабходныя для вырабу псіхатропаў. А пазней на кватэры студэнта – каля 60 грамаў псіхатропаў, якія планавалася прадаць, шалі, пакеты, ізастужку... Эх, якімі ж дурманнымі бываюць часам мары!



*Па інфармацыі прэс-цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.*




# Пра барацьбу, аліўкі, Японію і многае іншае



Настрой, як кажуць, лірычны. Таму лагічна, што гэтым разам мы пагаворым пра... барацьбу. А яшчэ — пра дзюдо, самба, бокс і каратэ. Бокс! (Для недасведчаных тлумачу: так абвяшчае рэферы пра пачатак боя.)

Яшчэ на самым досвітку развіцця чалавецтвааднойчы нейкія два хлопцы нешта не падзялілі і... пабіліся! І гэтак ім спадабалася калашмаціць ды дубасіць адзін аднога, а астатнім — назіраць за імі, што калі прыйшоў час самых першых Алімпійскіх гульняў (Старажытная Грэцыя, прыкладна IX стагоддзе да нашай эры), арганізатары ўключылі ў абавязковую праграму спаборніцтваў так званую класічную **барацьбу**. Два ўдзельнікі-атлеты (ад слова атло прыз, хаця сам прыз тады быў даволі сціплы — аліўкавы вяночак на галаву, зусім не тое, што цяпер) павінны былі даказаць усім, хто з іх больш спрытны і моцны, гэта значыць, літаральна пакласці саперніка на падлогу і тым самым выйграць!

За выкананнем правілаў паядынку сачылі двое суддзяў. Адзін з іх быў узброены палкай на той выпадак, калі давядзецца расцягваць залішне задзірыстых барацьбітоў.

Сёння барацьбой займаюцца і мужчыны, і жанчыны. Б'юцца, як роўныя! Спаборніцтвы адбываюцца на спецыяльным дыване (у дзюдо — татамі) пэўных памераў. Час паядынку абмежаваны, можа падзяляцца на некалькі перыядаў.

Увогуле ж існуюць шматлікія віды нацыянальнай барацьбы — азербайджанскі гулеш, грузінскі гідаабан, таджыкскі гаўштан, узбекскі кураш, японскія джыу-джыцу, сумо і інш. На Беларусі былі пашыраныя барацьба «да крыжа» і барацьба «на крыжы». Першая народная спартыўная гульня нагадвае вольную барацьбу (барцам дазваляецца штурхаць адзін аднаго, даваць падножкі, хапаць за ногі. Перамагае той, хто прыцісне саперніка спінай да зямлі і ўтрымае яго рукі, разведзеныя ў бакі), а другая — грэка-рымскую (праціўнікі абхопліваюць адзін аднаго, і той, хто паваліць саперніка на зямлю, — пераможца. Падножкі, штуршкі не дазваляюцца.).

Што можна сказаць пра **дзюдо**? Дзюдо (ад японскіх слоў дзю мяккасць і до шлях) — гэта японская нацыянальная барацьба. Пры барацьбе стоячы барцы імкнуцца з дапамогай падножак, падсечак, кідкоў і іншых прыёмаў кінуць адзін аднаго на татамі; пры барацьбе лежачы — утрымаць праціўніка прыціснутым спінай да татамі або з дапамогай болевых прыёмаў і задушлівых захватаў прымусіць яго прызнаць сябе пераможаным. Як гэта стасуецца са словам мяккасць, здагадацца цяжка. Японія, адным словам...



А вось у СССР у 1930-я гады ўзнікла **самба** (скарочаная назва рускага тэрміна «самбо» — самозащита без оружия) — від спартыўнай барацьбы, асновай якога з'яўляюцца найбольш эфектыўныя прыёмы з розных нацыянальных відаў барацьбы. Паядынкі адбываюцца на вялікім круглым дыване. Барацьба ідзе стоячы і лежачы, зноў — падножкі, падсечкі, кідкі, болевыя прыёмы і іншыя «мяккія» прыёмы.



З гісторыі Алімпійскіх гульняў:

*...Самымі жорсткімі відамі спаборніцтваў у Старажытнай Алімпіі лічыліся барацьба і кулачная бойка. Кулачныя байцы апраналі на галаву бронзавы шлем, а рукі абкручвалі скуранымі рамянямі, папярэднікамі сучасных баксёрскіх пальчатак. І ўсё адно шматлікіх байцоў выносілі са стадыёна непрытомнымі...*

Вось з гэтага самага кулачнага бою і развіўся **бокс**. У гісторыі бокса (ад англійскага box літаральна ўдар) знакавым звычайна лічыцца 1719 год. Зразумела, гэтая дата даволі ўмоўная: на самай справе, баксёрскія паядынкі праводзіліся ў Брытаніі яшчэ ў XIII стагоддзі, а адзін з першых у свеце спартыўных рэпартажаў быў змешчаны ў студзеньскім нумары англійскай газеты «Пратэстанцкі Меркурый» за... 1681 год. Чытаем:

*«Учора адбыўся матч бокса перад герцагам Альбемароўскім паміж яго грумам і мясніком. Першы выйграў прыз, як неаднаразова гэта рабіў і раней, бо лічыцца, нягледзячы на свой маленькі рост, найлепшым майстрам у гэтым практыкаванні ва ўсёй Англіі».*



Тады назваць імя чэмпіёна газета палічыла залішнім, паколькі неабходным (і цалкам дастатковым) было ўзгадаць толькі прозвішча яго арыстакратычнага ўладара.

На сённяшні дзень менавіта гэтыя «скокі кулака» – самы папулярны від адзінаборстваў у свеце. Бокс бывае аматарскі і прафесійны. Спаборніцтвы праводзяцца на рынгу – квадратнай пляцоўцы шэсць на шэсць метраў, абмежаванай па перыметры трыма канатамі, нацягнутымі паміж вуглавымі стойкамі. Баксіруюць у спецыяльных мяккіх пальчатках і ахоўных шлемах. Правілы дазваляюць наносіць удары ў пярэднюю і бакавую часткі галавы і тулава вышэй пояса; забараняюць захопы, штуршкі, падножкі, удары адкрытай пальчаткай, галавой. Паядынак доўжыцца тры раўнды. Судзяць спаборніцтвы суддзя на рынгу і пяць бакавых. А яшчэ – аперкот, брэк, клінч, накаўт з накдаўнам, свінг і хук...

Дарэчы, анекдот па тэме.

*Пасля другога раўнда баксёр пытае свайго секунданта:*

*– Ну, як, змагу я яго перамагчы?*

*– Безумоўна! Калі ты будзеш так махаць рукамі, ён урэшце застудзіцца і схопіць запаленне лёгкіх!*

**Каратэ** нам добра вядомае, дзякуючы... кіно. Фільмы з Брусам Лі, цэлая серыя «Храм Шаолінь», камедыйныя баевікі з Джэкі Чанам... Гэты бадзёры кітайскі майстар толькі з уласцівым яму гумарам вырабляў на экране такія яскравыя трукі, што нельга было глядзець на гэта без усмешкі!

Увогуле ж, каратэ – гэта японская сістэма самаабароны без зброі. Мае глыбокія гістарычныя, культурныя і філасофскія вытокі. Літаральна азначае пустая рука, рука няўзброеная. У аснове спартыўнага каратэ – удары рукой або нагой па найбольш слабых і болевых месцах чалавечага цела. Спартсмены выступаюць у традыцыйнай форме дзюдаістаў на татамі.

Не сакрэт, што чыста мужчынскімі відамі адзінаборстваў ва ўсім свеце займаюцца і жанчыны. Прычым, валоданне адмысловай тэхнікай ім можа вельмі спатрэбіцца не толькі на рынгу ці на татамі, але і ў паўсядзённым жыцці. Мяркуйце самі...



Аднойчы ў многіх сусветных СМІ з'явілася наступная інфармацыя:

*«У Паўднёвай Афрыцы жанчына, якая мае разрад па каратэ, збіла рабаўніка, што ўварваўся да яе ў дом. Урэшце, пасля сустрэчы з ваяўнічай дамай, налётчык трапіў у бальніцу са множнымі пераломамі костак чэрапа.*

*...Усё пачалося з таго, што ў дом Марджэры Фоўры сапраўды ўварваўся невядомы мужчына. Уладальніца чорнага пояса не разгубілася і імгненна стала ў баявую пазіцыю. На серыю ўдараў, праведзеных жанчынай, налётчык змог адказаць... толькі адным сваім. Тады адважная дама перайшла ў рашучы наступ і абсыпала налётчыка градам магутных хукаў і мавашы!..*

*Зараз няшчасны знаходзіцца ў шпіталі з траўмамі твару і пераломам костак чэрапа. Сама Марджэры Фоўры паведаміла, што для яе такія напады – звычайная рэч, паколькі разбойны налёт на яе дом ужо трэці. І кожны раз жанчыне даводзіцца фізічна адбіваць усе напады зламыснікаў»...*

Вось такая барацьба ў жыцці! І перамагае ў ёй мацнейшы. Законы жыцця і – спорту.

**Вядучы рубрыкі**
**аматар спорту**
**Аляксандр ЗОТАЎ.**

*Працяг – у наступным нумары.*



Фан Лін ТАО (Кітай).




## Многа выказванняў ёмкіх знойдзеш у кнізе Прыёмкі

*Творчая скарбонка паэта і барда Сяргея ПРЫЁМКІ ў мінулым годзе папоўнілася новай кнігай. Зборнік вершаваных цытат і анекдотаў «Ад двух да чатырох» пабачыў свет у выдавецтве «Кнігазбор». Атрымаўшы ад нашага пастаяннага аўтара падарункавы экзэмпляр, з задавальненнем паглыбіліся ў дасціпную мудрасць у адмысловай трактоўцы паэта. І хоць да кожнай вершаванай мініяцюры творца падае ў якасці своеасаблівага эпіграфа анекдот, цытату ці афарызм, на нашу думку, аўтарская інтэрпрэтацыя гэтых зыходнікаў атрымалася досыць арыгінальнай, набыла новы сэнс. Таму прапануем увазе чытачоў выбраныя з кнігі мініяцюры без указання першакрыніц.*




### Сяргей ПРЫЁМКА

### Ад двух да чатырох

Калі памылкі робяць людзі –
Прысуд выносім ім, як суддзі.
Калі свой грэх нясём дахаты –
Мы, безумоўна, адвакаты.

* * *

Не разважаючы, далі
Адказ на нейкае пытанне?
Тады на самай справе вы
Даўно ўжо мелі меркаванне.




* * *

У закаханых вельмі часта
Псуецца зрок з нагоды шчасця.
Але сямейнае жыццё
Адкрые вочы ім на ўсё.

* * *

Разумныя людзі рэдка крыўдуюць –
Робяць высновы і дурняў шкадуюць.

* * *



Бывае нялёгка часамі жанчынам
Адным гадаваць і выхоўваць сына,
Найлепшага ў свеце,
разумніка-зуха,
Якога для іх... нарадзіла свякруха.

* * *

Зрабі добраахвотна штосьці
двойчы –
І справакуеш смак халявы воўчы:
На трэці будуць ад цябе чакаць,
А на чацвёрты раз – патрабаваць.

* * *

Многім нулям падаецца, нібыта
Служаць яны для планеты арбітай.

* * *

Успрымаем кроплямі парады,
Раздаваць жа вёдрамі іх рады.




* * *

Жыццё, як і байка, шануецца спрэс
Не за памер, а за сутнасць і змест.

* * *

Быць героем увесь час складана,
А вось чалавекам – пажадана.

* * *

Слабы не здольны даравацЬ і котцы,
Уменне выбачаць –
ўласцівасць моцных.

* * *

Для некага ты раптам стаў благім,
Відаць, зашмат дабра яму зрабіў!

* * *



Мае каханне ў падтрымку
Тры варыянты супынку:
Ставіць яно паасобку
Клічнік, шматкроп’е ці кропку.

* * *

Калі ў гарах згубіў ты скарб які,
Дык не шукай яго на дне ракі.




**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Загадкі

Няма ні чыну, ні кароны,
Ды гучна каркае...

(Варона.)

Лёг на градцы на бачок
Не кавун, а...

(Кабачок.)

І днём, і цёмнай ноччу
Нястомна ўперад крочыць,
Ды з месца не кранецца.
А як жа ён завецца?

(Гадзіннік.)

Гойдае галінку,
Хмарку калыхае,
З хваляй у абдымку
Весела спявае.
Паляціць насустрач
Сонейку і лету,
Жартаваць не супраць
І з табою...

(Вецярок.)

*г. Барысаў.*

## Кот вінаваты

Трэцякласнік Стась вярнуўся са школы без настрою.

– Што здарылася? – занепакоілася маці.

– Настаўніца паставіла мне двойку!

– За што?

– За ката... Вось, паглядзі, – і хлопчык паказаў малюнак.

– Ой, дык прыгожа атрымалася! Як настаўніца магла паставіць двойку? – здзівілася маці. – Можа, ты дрэнна паводзіў сябе на ўроку малявання?

– А ў нас сёння гэтага ўрока не было. Ката я намаляваў на матэматыцы.

## Каб дрэнна не падумалі

– Горачка мне з табой, – кажа маці малой Дашы. – Зноў рукі запэцкала!

– Гэта я для таго, каб людзі не казалі, што расту беларучкай.






## «Захварэла» машына

Бацька рамантуе аўтамабіль. Падыходзіць трохгадовы Жэня, паказвае на яго пальчыкам і гаворыць:

– У машынкі – вава!



## Творчы падыход

Малая Вера паказвае маці малюнак:

– Вось тут бабуля Тоня і дзядуля Саша рэжуць дошкі.

– Дык жа дошак на тваім малюнку няма! – дзівіцца маці.

– Іх яшчэ не прынёс дзядуля Рыгор, – адказвае малая.

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.

# Удзячней свінкі няма скацінкі...

*Крыжаванка*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ х 2.

**Па гарызанталі:**

**1.** «Чаму ж тады не прыйшоў, // Як я цябе прасіла ? // Татка свінку закалоў, // Мамка ... зварыла» (*прыпеўка*). **6.** «Чаму ж мне не пець, // Чаму ж не гудзець: // ... пад лаўкаю // Бульбачку грызець» (*з беларускай народнай песні*). **9.** Да пары ... ваду носіць: вушка адарвецца – і ... разаб'ецца (*прыказка*). **10.** Выдатны аўстрыйскі кампазітар, які, паводле ўсходнеазіяцкага календара, нарадзіўся ў год Свінні. **11.** «Багацце падобна салёнай вадзе: чым больш яе п'еш, тым мацней ...» (*А. Шапенгаўэр*). **14.** Тое, што і настольнік; на калядную вячэру пад ... клалі сена. **15.** Далягляд, прастора. **18.** Зорная ноч на Вадохрышча – ураджай на гарох і ... (*прыкмета*). **20.** «Не тужы, мая ... , // За мной будзеш панаваць: // Я наймуся свіней пасвіць, // А ты будзеш падганяць» (*прыпеўка*). **23.** Удзячней свінкі няма скацінкі: есць што папала, а аддае ... (*прыказка*). **25.** «Пад тым дубам крыніца стаяла, // Там ... воду набірала» (*з беларускай народнай песні*). **26.** На Беларусі так называлі ўсе вадаёмы, з якіх на Вадохрышча набіралі асвечаную ваду. **27.** «Сівы конь, сівы конь, // Залатыя ... . // Сяду, сяду ды паеду // Да сваёй каханкі» (*прыпеўка*).

**Па вертыкалі:**

**1.** «Напэўна, гэтая ... , // Мабыць якая чараўніца, // Калі наперад многа знае» (*з паэмы Я. Коласа «Новая зямля»*). **2.** Рака на Гомельшчыне, левы прыток Прыпяці. **3.** Жаргон. **4.** Нячысцік, які, паводле павер'яў, уцякае з асвечанай на Вадохрышча вады і перасяляецца да Вербніцы на вярбу. **5.** «Пайду я у касцёл // У святу нядзельку: // Гляну раз на ..., // Сем разоў на дзеўку» (*прыпеўка*). **7.** Лясны жаваранак. **8.** Калі на Вадохрышча ... – на Вялікдзень таксама (*прыкмета*). **11.** «Набраўся недзе, як свіння, // Ды й брэша, як ... ; // Вось некаму

цябе суняць! // –Так прабірае Жонка Мужа, // Які напіўся дужа» (*з байкі К. Крапівы «Абраза»*). **12.** Надрадковы знак у выглядзе коскі. **13.** Ад ляся – ..., ад свінні – парасяты (*прыказка*). **16.** «Вецер вее, павявае, // Шыбачкі хістаюцца. // Прыйдзе мілы, пацалуе – // ... зліпаюцца» (*прыпеўка*). **17.** Толькі ... ведае, што ў свінкі ёсць сіла (*прыказка*). **19.** Старажытная славянская багіня прэсных крыніц. **20.** Крыніца паэтычнага натхнення (*пераноснае*). **21.** На яду – герой, на выпіўку – ..., а па рабоце – баязлівы заяц (*прыказка*). **22.** Беражы сухар да прывалу, а ... – для атакі (*прыказка*). **24.** «Шанцуе ж парсюку: увесь ... лычом у зямлю – і ніводнага фінгала» (*з верша Я. Мальца*).

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Адказы на старонцы 24.**

## АНЕКДОТЫ

– Дзяўчына, – звяртаецца юнак да незнаёмай прыгажуні, – мы з вамі дзесьці ўжо сустракаліся! Памойму, я вас бачыў учора ў заапарку...
– Магчыма. А ў якой клетцы вы былі?



Аб'ява: «Прадаецца сабака. Новы. Ні разу не гаўкаў».



Ужо некалькі месяцаў судна ў моры. Каманда засумавала і пачала выпіваць.
Капітан склікаў усіх і кажа:
– Калі такая справа, то ўсю гарэлку – за борт!
Усе анямелі.
Раптам галасы з задніх радоў:
– Правільна, правільна! Даўно б так!
Каманда (амаль хорам):
– А вадалазам ніхто слова не даваў!



– Вучоныя ўдакладнілі: чалавек паходзіць не ад малпы.
– А ад каго ж?
– Ад дзвюх малпаў.



На чыгуначным пераездзе, перад апушчаным шлагбаумам – чарга. Дзясяткі аўтамашын нецярпліва сігналяць, спяшаюцца ехаць.
Да іх падыходзіць чыгуначны работнік.
– Шаноўныя, запасіцеся цярпеннем, – спакойна кажа ён. – Цягнік спазняецца на сем гадзін.

**Даслаў Міхась КАВАЛЁЎ.**







Сяргей ВОЛКАЎ Х 2.

Андрэй СІДАРЭЙКА



# ТАННЫ РАМОНТ



*Гумарэска*

Бабуля Марына ўсё лета правяла на дачы: садзіла, палола, збірала. А потым сушыла, варыла, кансервавала – зіма ўсё падбярэ... І хаця б хто дапамог: адна. Вядома, дачка і зяць усё на працы ды на працы, а ўнучкам-падлеткам – не да зямлі, у горадзе ў іх свае забавы. Здаралася, праўда, прыязджалі ўсе ўчатырох да яе ў выхадны. Ды дзе ж ты іх у грады пусціш? Паламаюць, патрушчаць, не тое, што трэба, праполяць. Лепш адпачывайце! Ды і дача ў іх свая, хаця там нічога не садзяць, толькі адпачываюць. Вядома, некалі з-за працы дзень пры дні.

Вярнулася Марына ў сваю кватэру восенню. Выгрузіла з суседавай машыны нарыхтоўкі, заставіла імі прыхожую ды заснула як забітая ў мяккім ложку. А прачнулася яшчэ на дзень не займалася: на кухні вада з крана – кап, кап, кап!.. – быццам хто цвікі ў скроні ўбівае...

Паўздыхала старая, сяк-так дачакалася раніцы і пазваніла ў ЖЭС. Маўляў, так і так, прышліце сантэхніка!

А адтуль: «Прышлём, але заўтра, бо ў яго на сёння ўсё распісана». Ды: «Разлік – строга па тарыфе, адпаведна са складанасцю работы! Чым яе больш, тым даражэй».

Вунь яно што!.. Могуць добрую капейчыну садраць, а да пенсіі – далёка. Праўда, ёсць нейкія грошы, прыхавала на ўсялякі выпадак. Але – не, сантэхніку не аддасць! Дачцэ трэба тэлефанаваць. Няўжо зяць не выручыць? Ён жа на аўтабазе гайкі круціць, што яму той кран?!

З дачкой гаварыла нядоўга. Тая: і дзеці растуць, і сама абнасілася, і муж, Мікола, як не сіліцца – не дужа зарабляе.

Зноў паўздыхала старая, а потым рашылася:

– Кран у мяне – кап ды кап... І спаць не дае, і лічыльнік круціцца, а вада гарачая. У ЖЭС тэлефанавала, кажуць, сантэхніка толькі заўтра могуць прыслаць. Аплата – па тарыфе. Ведаю я іх: тарыф тарыфам, а сантэхніку дай!

– Дык Міколу прышлю, чакай! Навошта табе каму плаціць?

І дачакалася. Зяць прыйшоў пасля шасці. З пляскатым чамаданчыкам у руцэ.

– Што там у цябе, маці? – з дзвярэй запытаўся ён і ледзь не спатыкнуўся аб слоікі. – Ай, панастаўляла!

– Прыбяру... Кран капае. Казалі ў ЖЭСе, сантэхнік можа прыйсці толькі заўтра. Вось я і...

Не дагаварыла, зяць не даў.

– Ды ён у цябе ўжо цурчыць! – крыкнуў з кухні. – Калі б не я – за ноч лічыльнік на ўсю пенсію накруціў бы!

– Няўжо? – спалохана пляснула рукамі старая.

– Вось табе і няўжо! Ды ты не бойся, – зарагатаў зяць, бразгаючы ключамі. – Цэлая будзе твая пенсія!

Крыху супакоіўшыся, Марына пачала распытваць пра сям'ю: як унучкі, як сам з Людай?

– Ды так сабе. Вось Веры і Лізе трэба новыя сукенкі. На іх жа грошай не набярэшся! Растуць, нявесты.

– А дача ваша? Ці ўрадзіла што, хоць якое шчаўе?

– З чаго б, маці? Ведаеш жа, за працай свету белага не бачам. Пасадзілі былі нешта, ды ўсё прапала. Ай, што казаць... А ў цябе, бачу...

– А як жа? Накладу ў сумкі ўсяго. Сваё! Ешце на здароўе... Вы з Людай самі хоць як? – зноў спытала пра дачку.

– Як, як... Сама ведаеш, рамонт у кватэры рабілі. Усё грошы ды грошы. Вунь цяпер Люда мне нават на цыгарэты не дае. Сорамна сказаць, на працы ў хлопцаў прашу.

– Божа! Як жабрак які!

– Але... Ну, прымай, маці, працу, – сказаў зяць, мыючы рукі пад кранам. А потым закрыў-адкрыў яго: – Ну?!

Паглядзела Марына: не капае. Узрадавалася:

– Як жа ты мяне вcase выратаваў, мой зяцёк залаты! Можа, павячэраеш? Пакуль дабярэшся дадому ў той канец горада... У мяне і чарачка ёсць, і да чаркі.

– І то праўда, – пагадзіўся зяць і пасунуўся за стол. – Дарога няблізкая...

Калі праз паўгадзіны крыху захмялелы Мікола ўзняўся з-за стала, цешча паказала яму на дзве цяжка напакаваныя сумкі: маўляў, гэта дамоў вазьмі. І падала ў хусцінцы скрутачак:

– Во, зяцёк ты мой залаты, Людзе занясі. Тут цэлая пенсія. Збірала! Яна і сабе нешта купіць, і ўнучачкам, і табе на курыва дасць... А то чакай таго сантэхніка ды за тарыф яму плаці. Ведаю я іх: тарыф-тарыфам, а каб добра зрабіў, ты яму яшчэ якую пяцёрку ў руку торкні!

– Твая праўда, маці, – згадзіўся зяць. – Яны такія – задарма і пальцам не паварушаць.

Калі зяць пайшоў, радасная старая доўга круціла кран. Не капаў... І думала: «Во майстар дык майстар!.. А грошай ды сушанага, варанага, закручанага – не шкада. Сваім аддала... Ды і зарабіў жа...»

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*



# Мініяцюры

## Унікальны голас

Ён голас меў такі, што, пэўна, асам
У свеце артыстычным хутка б стаў:
На падначаленых сварыўся басам,
Перад начальствам тэнарком пішчаў.



## Парадокс

І людзі маюць свой фасон і крой,
І у жывёл характар усялякі...
Прыемна, што сабака – сябар мой,
Балюча мне, калі сябры – сабакі.

## Памылка

Наблыталі нешта вучоныя,
Гісторыкі гэтыя самыя:
Чаму яны справы чорныя
Завуць часта белымі плямамі?

## Клопат

Клопат пра рэдкіх жывёл праяўляем –
Іх у Чырвоную кнігу ўключаем.
Толькі жывёлы пра гэта не знаюць
І паступова знікаюць, знікаюць...

## Не стаматолаг

Дыплом ён медыцынскі атрымаў.
Ды веды слабыя, ўсе гэта прыкмячалі.
«Я стаматолаг!» – горда абвяшчаў.
«Ні ў зуб нагой!» – так людзі адзначалі.

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*




Кадравыя арэшкі.
Шапка Манахама.
Яркая паўлітра мастака.
Чыхальная зала.
Атамны рэктар.
Шнапс-капітан.
Стоп-менеджар.
Вогнедушыцель.
Напхненне.

**Заўважыў Сяргей ЛАПЦЁНАК.**




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Алег КАРПОВІЧ.

Леў КАЗЛОЎ




# ТАМ, ДЗЕ ЎЗЫХОДЗІЦЬ СОНЦА

*Дасціпнасць, народжаная ў краінах Далёкага Усходу – Кітаі і Японіі, напоўнена філасофскай своеасаблівасцю і нярэдка ўтрымлівае рэкамендацыі для разнастайных сітуацый. Яе павучальнасць узыходзіць да вельмі даўніх традыцый, якія развіліся яшчэ ў часы Канфуцыя, старажытнакітайскага філосафа, чые выказванні, а таксама анекдатычныя выпадкі, звязаныя з ім, сталі пасля класічнымі. Але ж як яны часам актуальна гучаць, нягледзячы на іх шматвяковы стаж!*

У царстве Цы жыў некалі знакаміты мастак. Аднойчы правіцель, якому ён распісваў палац, запытаўся, што цяжэй за ўсё і што лягчэй за ўсё маляваць.

– Цяжэй за ўсё зрабіць выяву каня, сабакі ці каровы: яны ўсім добра вядомыя, і самая маленькая памылка тут жа заўважаецца. А лягчэй за ўсё намаляваць духаў і чарцей. Пакуль я не сустракаў чалавека, які б даў іх дакладнае апісанне.

* * *

У сталіцы царства Чу з'явіўся лекар, які аб'явіў, што мае сродак неўміручасці. Прасіў ён за яго аграмадную суму. Правіцель, якога не збянтэжылі расходы дзеля вечнага жыцця, неадкладна адправіў пасыльнага набыць цудадзейную мікстуру. Калі той ужо вяртаўся, каравульны пацікавіўся, што сабой уяўляе гэты сродак? Не паспеў пасыльны адкрыць скрыначку, як шэльма схапіў з яе пілюлю і імгненна праглынуў.

Разгневаны правіцель загадаў пакараць смерцю стражніка. Ды хітрун адным толькі сказам змог сябе выратаваць. Ён прамовіў: «Калі сродак сапраўдны, то смерць мне не страшная; калі ж гэта падробка, то ўсе пачнуць кпіць з нашага правіцеля, які дазволіў так лёгка сябе падмануць».

* * *

Пэўны жыхар царства Чжэн папрасіў жонку пашыць яму штаны.

– Як жа іх шыць? – пацікавілася жанчына.

– Каб былі рыхтык такія, як мае старыя, – патлумачыў муж.

Жонка ўважліва агледзела ўзор і ўзялася за справу. Неўзабаве заказ быў гатовы. Але калі «кліент», запрошаны на прымерку, зірнуў на выраб, то знямеў ад здзіўлення: добрасумленная майстрыца ўзнавіла на новым прадмеце гардэроба ўсе дзіркі і латы з папярэдніх мужавых нагавіц.

* * *

Гандляр з царства Чу прадаваў на кірмашы шчыты і коп'і, усяляк нахвальваючы свой тавар. Узяўшы шчыт, ён абвяшчаў: «Вось шчыт, які нішто не здольна прабіць!» Калі ж у яго руках аказвалася кап'ё, гандляр мовіў так: «Вось кап'ё, вастрыню якога нішто не здольна вытрымаць!» Тут хтосьці падышоў і запытаў:

– А што будзе, калі выкарыстаць тваё кап'ё супраць твайго ж шчыта?

* * *

Падарожнік збіўся са шляху і, убачыўшы нейкага чалавека, пачаў распытваць, як яму знайсці патрэбны кірунак. Той жэстамі паказаў, што спачатку трэба заплаціць, а пасля інфармацыя будзе прадастаўлена. Калі грошы аказаліся ў руках незнаёмца, «нямы» падрабязна і дакладна ўсё расказаў.

– Адкажы, чаму ты прыкінуўся нямым? – запытаў яго падарожнік.

– Зараз такі час, што толькі грошы маюць голас.



* * *

У правінцыю прыехаў новы чыноўнік. Прыняўшы справы, ён запытаў у падначаленага:

– Як мне належыць сябе паводзіць на гэтай службе?

– Першы год, – адказаў той, – пастарайцеся быць сумленным, другі – напалову сумленным, а ўжо на трэці год можна быць несумленным.

— Ох, — уздыхнуў чыноўнік. — Ці хопіць сіл вытрымаць да трэцяга года?

* * *

На прыёме сярод гасцей аказаўся вялікі аматар грэцкіх арэхаў, які амаль не адрываўся ад ласунку. Гаспадар, не вытрымаўшы, ускрыкнуў:

— Чаго ты так накінуўся на арэхі, быццам болей нічога няма на стале?

— Арэхі карысныя для лёгкіх! — адказаў госць.

— Ты толькі і робіш, што клапоцішся пра свае лёгкія! А вось што ў мяне сэрца ад гэтага баліць — не заўважаеш! — выпаліў яму гаспадар.

* * *

Адзін чалавек быў абвінавачаны ў крадзяжы, і яму на шыю павесілі калодку. Прыяцель, убачыўшы такое ўпрыгожванне, запытаў:

— Як жа ты праштрафіўся?

— Не пашанцавала, — адказаў той. — Ішоў вечарам па вуліцы, гляджу: валяецца на дарозе вяроўка. Ну, думаю, чаго ёй валяцца, узяў ды падабраў...

— А калодка ўсё-ткі за што?

— Разумееш, я не ведаў, што да другога канца вяроўкі было прывязана цяля.

* * *

Кіраўнік адной правінцыі вельмі любіў усялякія падарункі. Чыноўнікі, ведаючы, што дзень яго нараджэння прыпадае на месяц пацука (па кітайскім календары), прыпаднеслі яму да гэтай падзеі грызуна, адлітага з золата. Прыняўшы з задавальненнем падарунак, кіраўнік тут жа намякнуў падначаленым: «Набліжаецца дзень нараджэння маёй жонкі, які прыпадае на месяц буйвала...»

* * *

Здарылася так, што аднаму аматару цішыні і спакою вельмі не пашанцавала з суседзямі: з аднаго боку пасяліўся меднік, з другога — слесар. Зразумела, што шум выводзіў гэтага чалавека з раўнавагі, таму ён паабяцаў арганізаваць шыкоўнае застолле для майстроў, калі тыя пераедуць. І вось на наступны дзень усё заціхла, а бліжэй да вечара меднік са слесарам прыйшлі па абяцаныя пачастункі. Калі баляванне ўжо ішло поўным ходам, гаспадар пацікавіўся, куды ж суседзі пераехалі. Меднік, сербануўшы з кубка, патлумачыў: «Ён — у маю кватэру, а я — у яго!»

* * *

Нейкі селянін, узяўшы мяшок і грошы, адправіўся на кірмаш па рыс. Па дарозе ён згубіў мяшок, вярнуўся дадому і, каб выгарадзіць сябе, пачаў расказваць жонцы:

— Ох, і людзей сёння на кірмашы! Так таўкліся, што немагчыма было ўтрымацца на нагах. Многія нават мяшкі свае пагублялі...

— Напэўна, і ты згубіў? — усклікнула жонка, зразумеўшы, да чаго той вядзе гаворку.

— А што, па-твойму, — парыраваў разявака, — я горшы за астатніх?

— Ну, хоць грошы ты не пасеяў?

— О, гэта я прадугледзеў, — упэўнена прамовіў муж, — я іх надзейна завязаў у ражок мяшка!

* * *

Самурай, што вучыўся стральбе з лука, стаў перад мішэнню, заціснуўшы ў руцэ дзве стралы. Вандроўны мудрэц Кенка, які аказаўся побач, заўважыў: «Хто пачынае засвойваць навуку стральбы, не павінен мець дзвюх стрэл, бо разлічвае больш на другую, чым на першую, прыцэльваючыся ёй недастаткова старанна. Заўсёды прымушай сябе думаць, што ў цябе адзіная страла. Так і ў жыцці: нярэдка з вечара аднаго дня справа адкладваецца на ранак наступнага, з ранку — на вечар і так далей. Таму многія адсоўваюць ад сябе тое, што неабходна браць неадкладна; таму паўсюль і валадарыць марудлівасць. Калі хочаш нешта зрабіць — рабі адразу!»



* * *

Доктар залячыў свайго пацыента да смерці. Разгневаны такім вынікам натоўп сваякоў памерлага накінуўся на няўдачніка, звязаў яму рукі і ногі, каб перадаць уладам. Аднак ноччу лекару ўдалося вызваліцца з путаў, выскачыць з акна проста ў раку, што працякала ўнізе, і шчасліва перабрацца на другі бераг, дзе знаходзілася яго жытло. Дома ён заспеў свайго сына за чытаннем медыцынскай кнігі. «Кінь гэты непатрэбны занятак, — усклікнуў бацька, — у нашай справе галоўнае — умець плаваць!»

**Пераклад з рускай Веранікі МАНДЗІК.**

*«Музей дасціпнасці», Мн., 1989 г.*







Малюнак Пятра КОЗІЧА.
*«Вожык», № 6, 1997 г.*




Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.
*«Вожык», № 4, 1998 г.*




Малюнак Таццяны БАРАНАВАЙ.
*«Вожык», № 10, 1997 г.*




Малюнак Міколы СЕЎЛЮКА.
*«Вожык», № 11, 1996 г.*



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.
*«Вожык», № 1, 1999 г.*




Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Хто і чаму Перуна баяўся

Пасля таго, як Бялун падаў у добраахвотную адстаўку, ягоны сын Пярун пачаў верхаводзіць над Сусветам. Іншымі словамі, раз’язджаць у персанальнай залатой калясніцы па небе і адтуль, зверху, усім нязгодным пагражаць маланкамі. Маўляў, калі што не так, дык!..

Таму яго баяліся і паважалі. Ды і як іначай? Як загрукоча зверху громам, як трэсне маланкай... Тут міжволі запаважаеш!

Людзі ж былі земляробамі. А Пярун мог і цёплы дожджык паслаць, і працяглую засуху наладзіць. Альбо такі лівень з градам утварыць, што ўсё на полі да зямлі прыб’е і з гразёй змяшае... Таму народ шматлікія выявы Перуна з дрэва ці каменю высякаў, маліўся перад імі шчыранька, ахвяры прыносіў... Карацей, грэх было таму на людскую няўвагу скардзіцца.



А ў вольны ад работы час Пярун любіў паляваць. Толькі не на качак ці ваўкоў, а на... нячысцікаў. Чэрці гэтыя былі нашчадкамі таго першага чорта, якога Бялун калісьці ў памагатыя ўзяў. Вельмі іх Пярун не любіў. Як толькі ўбачыць дзе, адразу маланкай зверху жахне!

Нячысцікі хаваліся ад Перуновых стрэл пад высокімі дрэвамі. Вось чаму ў час навальніцы нельга было там хоць на хвіліначку затрымлівацца.

Чорт для чалавека нябачны. Таму магло так стацца, што пад адным дрэвам і чалавек, і нячысцік разам апынуцца. Нячысцік гэты, праўда, аніякай шкоды чалавеку пад лясінай не зробіць. Але разгневаны Пярун, заўважыўшы зверху чорта, абавязкова лупане па такім дрэве маланкай. Ды так, што чалавеку не пазайздросціш!



Чорт жа, ратуючыся ад Перуна, мог у час навальніцы і ў жытло чалавечае заскочыць. Наіўны, спадзяваўся, што той не стане кідаць маланку ў жылую хаціну. А як жа!

Нянавісць Перуна да нячысцікаў была настолькі бязмежнай, што грозны бог і ў чалавечае жытло не задумваючыся маланкамі лупасіў, калі там усё ж спрабаваў схавацца чорт. Чорту што? Хвост, магчыма, крыху маланкай прыпячэ ці пысу сваю парсючковую полымем абсмаліць — і ўсе справы. А вось для чалавека такая няласка Перуна да нячысціка магла бокам выйсці. У самым гаротным сэнсе гэтага слова...

Праўда, таго, хто выпадкова гінуў ад маланкі Перуна, багі потым абавязкова забіралі да сябе ў Вірай і шчодра ўзнагароджвалі. Таму нашы продкі не доўга гаравалі над такім нябожчыкам, тым больш, не спрабавалі вярнуць яго зноўку да жыцця. Рабіць гэтак — значыцца, ісці наперакор Перуну, а псаваць адносіны з грозным богам ніхто з іх не асмельваўся...




## Вадалей

Любіць спантанны адпачынак без планаў, у вялікай кампаніі з палаткамі і пасядзелкамі каля вогнішча.





16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 2 (1565), 2019 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Алена КЕДА *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры),* Анастасія СКАРКО *(мастацкі аддзел).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь,
220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь,
220034, г. Мінск, вул Захарава, 19.
E-mail: a-vojik@yandex.by.
Тэлефон галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 244-92-37, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША.
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ.

Падпісана да друку 12.02.2019. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,08. Тыраж 619 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61,
220123, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.



**Адказы на крыжаванку (стар. 16–17)**

**Па гарызанталі:**

**1.** Вушкі. **6.** Парсючок. **9.** Збан. **10.** Моцарт. **11.** Смага. **14.** Абрус. **15.** Абсяг. **18.** Ягады. **20.** Мілаша. **23.** Сала. **25.** Дзяўчына. **26.** Ярдан. **27.** Санкі.

**Па вертыкалі:**

**1.** Вадзіца. **2.** Іпа. **3.** Арго. **4.** Чорт. **5.** Абраз. **7.** Юла. **8.** Завіруха. **11.** Сабака. **12.** Апостраф. **13.** Ласяты. **16.** Губачкі. **17.** Зямля. **19.** Дана. **20.** Муза. **21.** Леў. **22.** Штык. **24.** Час.

# УСЯГО ПАТРОХУ!





Віктар КОХАН х 2.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Алег ГУЦОЛ.




Руслан БОГУШ.



Алег ПАПОЎ.

# Вожыкаўскі плакат

Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



